# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 18 (427) | ГОД IX | 3 МАЯ 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.


ДЛЯ ЎСІХ ЧЫТАЧОЎ

## ВЯЛІКІ КОНКУРС „НІВЫ"

## ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ

**У сувязі з дваццацігоддзем нашай народнай краіны аб'яўляем вялікі конкурс п.з. «Дваццацігоддзе».**

**У конкурсе могуць прыняць удзел усе нашыя чытачы. Што трэба рабіць? Проста напісаць у рэдакцыю ліст на тэму: «Дваццацігоддзе». Могуць быць гэта ўспаміны, параўнанні паміж сёняшняга дня з мінулым, змены ў вёсцы, грамадскім ці асабістым жыцці, паказ авансу асяроддзя або паасобных людзей. Можна пісаць аб сабе, аб сваіх адчуваннях і марах, аб роднай мясцовасці, краіне і г.д. Адным словам, канкрэтны выбар матэрыялу пакідаем Вам, дарагія чытачы. Пішыце, што Вам бліжэй ляжыць на сэрцы.**

**Размеры конкурснай працы неабмежаваны і не будуць мець уплыву на ацэнку прысланага матэрыялу.**

**Найлепшыя працы будуць узнагароджаны наступнымі ўзнагародамі:**

**адным з навейшых мініятурных РАДЫЁПРЫЁМНІКАЎ на транзістарах маркі «Koliber»**

**ВЕЛАСІПЕДАМ...**

**РУЧНЫМ ГАДЗІННІКАМ (16 каменняў)...**

**першакласным НАСТОЛЬНЫМ ГАДЗІННІКАМ у прыгожай апраўе...**

**ФОТААПАРАТАМ...**

**ЦІКАВЫМІ КНІЖКАМІ.**

**Апрача гэтага найцікавейшыя працы будуць апублікаваны ў «Ніве», за што аўтары іх, апрача ўзнагарод, атрымаюць ганарар і будуць прыняты ў лік нашых карэспандэнтаў.**

**Тэрмін надсылання прац канчаецца 1 чэрвеня г.г. Важна дата штэмпеля пошты.**

## НОВАЕ АБЛІЧЧА САКОЛЬШЧЫНЫ



Старшыня ПРН Вечаслаў Внучка.

Нідзе так, як на Сакольшчыне, у даваенны перыяд адчувалася, што тут Польшча «Б». Санацыйная спадчына была паглыблена нямецкай акупацыяй. Амаль поўнасцю была зруйнавана і абрабавана гаспадарка павета. Цяжкі быў на Сакольшчыне старт народнай улады. Ён быў яшчэ цяжэйшы, чым у іншых паветах, і таму, што доўгі час рэакцыйныя банды доўга праследвалі тут людзей і гэтым перашкаджалі перабудоўваць і адбудоўваць народную гаспадарку. З таго цяжкога часу прайшло ўжо амаль 20 год. 20 год гаспадарыла таксама буржуазная Польшча. Каб параўнаць гэтыя два дваццацігоддзі, мы звярнуліся з некалькімі пытаннямі да старшыні павятовай рады нарадовай у Саколцы Вечаслава Внучкі.

— Таварыш старшыня, у якой галіне Сакольшчына мае найбольшыя дасягненні за 20 год народнай улады?

— Велізарныя дасягненні ёсць у кожнай галіне. Магчыма, што на першае месца трэба паставіць асвету. Пабудаваны 34 новыя школы ў павеце і 7 дзіцячых садоў. Зараз колькасць сямікласных школ на Сакольшчыне ў параўнанні да 1939 года павялічылася на 1000%. Маем цяпер ужо 99 пачатковых школ, у тым 67 сямікласных. Апрача гэтага ў павеце існуе 16 школ сельскагаспадарчай падрыхтоўкі. Перад вайной было толькі 6 сямікласных школ. У Саколцы ёсць 2 сярэднія школы, якіх таксама не было перад вайной. Непісьменнасць тады была нармальнай справай. У 1949 годзе ў павеце налічвалася 5320 зусім непісьменных, якія не мелі яшчэ 50 год. Паўпісьменных было 4473 асобы. Каб ліквідаваць непісьменнасць, было арганізавана 315 асветных курсаў. Зараз няма непісьменных людзей на вёсцы.

— Значыць, сапраўдная культурная рэвалюцыя адбылася на Сакольшчыне, — звярнуўся я да таварыша Внучкі. — А як у сельскай гаспадарцы? Што асабліва варта падкрэсліць?

(Працяг на стар. 4)



НОВАЕ ПРАДШКОЛЛЕ Ў САКОЛЦЫ.




Калі здарыцца Табе, дарагі Чытач, пабываць у мястэчку Нарва, што прытулілася на стромым беразе ракі, і захочацца запытаць любога са старажылаў - нараўлян аб мінулым яго мясціны, дык напэўна пачуеш такія вось словы:

— Ого-го, пане, Нарва!.. Нарва — гэта старажытны горад. І вялікі ж ён калісьці быў! Го-го!.. Не верыце? Яшчэ і цяпер людзі ў дзвюх вярстах за мястэчкам цэлыя плахціны каменнага бруку выворваюць. Значыць, горад і там быў... Нарва аж туды цягнулася. Так, так, быў, але як кажуць, сплыў, а па ім засталося вось ні то мястэчка, ні то вёска, як бачыце...

І з горкай ноткай скаргі на гісторыю, што так жорстка абышлася з вялікім горадам, старажыл - нараўлянін пакідае Цябе, Чытач, на вузенькай нараўлянскай вулачцы. А мы тым часам паспрабуем разважыць, ці жывая па сённяшні дзень легенда аб колішняй веліччы Нарвы мае гістарычныя падставы.

У загалоўку мы змясцілі сказ: «Мястэчку Нарва 450 год» Сапраўды, у 1964 годзе спаўняецца 450 год пісанай гісторыі горада Нарвы Дакументы сведчаць, што ў 1514 годзе кароль польскі і адначасова вялікі князь літоўскі Сігізмунд Стары засноўвае горад Нарву, а ў 1529 годзе пад уплывам сваёй жонкі каралевы Боны, канчаткова надзяляе яго гарадскімі правамі. Здавалася б, што ад гэтай даты і трэба было б пачынаць гісторыю горада Нарва. Але такі пастунак быў бы невыбачальнай крыўдай, нанесенай Нарве.

Фактычна гісторыя горада пачынаецца ў канцы X стагоддзя, калі ў 983 годзе князь Кіеўскай Русі, Уладзімір, здабывае землі ятвягаў, цэнтр якіх знаходзіўся на сённяшняй Сувальшчыне. Іменна ў той час, разам з паходам князеўскіх дружын, аколіцы сённяшняй Нарвы былі населены людзьмі з аколіц Брэста і Турава. Першапачаткова была пабудавана невялікая драўляная крэпасць-град у месцы, дзе ўпадае рэчка Нараўка ў раку Нарву, і абсаджана воямі, каб ахоўваць заходнія граніцы Кіеўскай Русі ад нечаканага нашэсця ваяўнічых ятвягаў. Сляды гэтай старажытнай крэпасці засталіся ў форме рэштак насыпу і рову на правым беразе ракі каля вёскі Бяндзюга. Гэтая крэпасць, як і першыя людскія сялібы, былі заснаваны ў дрымучай пушчы, яшчэ не кранутай чалавекам. Аднак гэтая першая каланізацыя не была трывалай. Неўзабаве яна амаль цалкам загінула ад набегаў ятвягаў. Але безыменная стараруская крэпасць пры стоку Нарвы і Нараўкі адыграла вялікую ролю ў пралажэнні вялікага шляху-гасцінца з польскіх гарадоў праз Драгічын, Мельнік, Бельск у Гродна, Валкавыск,

(Працяг на стар. 4)




**«БАРОН ФОН ГОЛЬДРЫНГ ПАСЛЯ ВАЙНЫ» — працяг хвалюючай аповесці Юрыя Дойльд-Міхайліка, якую мы друкавалі ў «Ніве» і якая выклікала сярод нашых чытачоў вялікую цікавасць.**

*

Фотарэпартаж з урачыстасцей уручэння сцягу беларускаму ліцэю і падставовай школе ў Гайнаўцы.






Сімвал сённяшніх дзён Нарвы — прыгожая агранамоўка.

 

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# СМЕРЦЬ ПРЭЗІДЭНТА

Парыжскі тыднёвік «Экспрэс» надрукаваў справаздачу Томаса Б'юкенена аб двухтыднёвай яго паездцы ў Злучаныя Штаты Амерыкі, дзе ўдалося яму знайсці новыя доказы ў пацвярджэнне сваёй версіі «злачынства веку». Б'юкенен дайшоў да вываду, што забойства прэзідэнта Кенедзі было арганізавана чалавекам або цэлай групай. Лі Освальд быў толькі адным з інструментаў змовы, шырмаю, за якою схаваліся другія змоўшчыкі. Мінулае Освальда зрабіла з яго «дасканалага забойцу». Ён дэманстратыўна купіў карабін і, магчыма, дапамог забойцы ўвайсці ў будынак кнігарні. Пасля забойства прэзідэнта паліцыянту Тыпіту было даручана знішчыць Освальда. Калі б гэта ўдалося яму, свет — і перад усім Амерыка — былі б перакананы, што прэзідэнта забіў камуніст. Несумненна, што адзін са стралкоў размясціўся на чыгуначным мосце, пад якім праязджала прэзідэнцкая машына. Мост не быў сцеражоны. Стралок меў магчымасць уцякаць, бо ў другую хвіліну пасля першага выстралу ўся ўвага была сканцэнтравана на будынку кнігарні, адкуль пасыпалася рэшта стрэлаў. Магчыма, што гэтым стралком на мосце быў суджаны нядаўна Джэк Рубі. Як-ніяк, але знаходзіўся ён адзін у будынку рэдакцыі «Далас морнінг н'юс», недалёка ад моста...

Освальд аказаўся больш спрытным ад Тыпіта. Зразумеў, чаго хоча ад яго паліцыянт і выстраліў у яго першым. Пасля арышту Освальд думаў, што яго абвінавачваюць толькі ў тым, што забіў Тыпіта. Калі Освальд даведаўся, што абвінавачваюць яго ў смерці прэзідэнта, яго зараз жа пазбавілі магчымасцей сустракацца са сваім адвакатам. Было ясна, што Освальд можа сказаць праўду, трэба было, каб ён замоўк назаўсёды. Зрабіў гэта Рубі, страляючы ў Освальда на турэмным пляцы, на вачах дзесяткаў журналістаў, рэпарцёраў тэлевізіі і... прадстаўнікоў улад.

Цяпер сам Рубі засуджаны на смерць, чаго мала хто спадзяваўся... Але, калі Рубі, Освальд і іх супольнікі былі замешаны ў адной і той жа змове, тады зусім зразумела, што і Рубі таксама павінен быць знішчаны, ліквідаваны, як і Освальд. Мёртвыя заўсёды маўчаць!

Аднак Рубі не памрэ на электрычным крэсле, проста, не дажыве да гэтай пары.

Для гэтага ўжо ўсё падрыхтавана. З Рубі зрабілі вар'ята і таму будзе выглядаць вельмі праўдападобна, калі, напрыклад, аднаго дня мы даведаемся з газет, што Рубі, скажам, павесіўся ў сваёй турэмнай камеры. Адвакат не раз спрабаваў даказаць перад судом, што Рубі шалёны і ў хвілінах вялікай нервовасці не ведае, што чыніць! Калі так, дык зусім праўдападобным будзе яго самагубства, бо ж ён засуджаны на смерць. Вядома, перспектывай смерці яшчэ ніхто разумны не цешыўся...

Томас Б'юкенен удакладніў некаторыя даныя пра Рубі:

1. «Служачым даласкай газеты «Морнінг н'юс» Джэк Рубі выдаўся вельмі «ўстрывожаным», калі яны вярнуліся ў рэдакцыю, пасля таго, як бачылі забойства прэзідэнта. Паводле іх расказу Рубі, які не пайшоў разам з імі глядзець на прыезд прэзідэнта, хаця і гаварыў, што ён нібы «захоплены Кенедзі», рэагаваў на расказ аб здарэнні выяўленнем незвычайных эмоцый.

Абаронца Джэка Рубі, які звычайна не забываў ніякіх падрабязнасцей адносна фізічнага стану свайго кліента, аднак, нічога не сказаў аб тым, ці ў той момант Рубі не быў задыханым і ці не выяўляў адзнак нядаўняга фізічнага намагання. Акруговы суддзя Уэйд стараўся не паглыбляць гэтага пытання. (Томас Б'юкенен устанавіў, што даволі было двух з палавай мінут, каб перабегчы з чыгуначнага моста да рэдакцыі «Морнінг н'юс»).

2. У абарону Рубі сцвярджалася, што ён не мог загадзя задумаць забойства Освальда. Яго перавод з турмы быў назначаны на 10-ую гадзіну раніцы 24 лістапада, а ў той час Рубі знаходзіўся ў некалькіх кіламетрах ад турмы...» Паводле паказанняў сведак, ён увайшоў у турму толькі ў 11 гадзін 19 мінут. Менавіта ў гэты час паліцыя павінна была вясці Освальда цераз пляц. Рубі выстраліў у 11 гадзін 21 мінуту.

Абаронца Рубі мог, такім чынам, з непахіснай логікай цвердзіць, што ніхто, акрамя даласкай паліцыі, не мог ведаць, што Освальд будзе яшчэ знаходзіцца ў турме ў момант, калі прыбыў туды Рубі.

Томас Б'юкенен паведамляе далей:

«Рубі склаў цікавую заяву дэтэктыву Томасу Макмілану, паліцэйскаму сяржанту Патрыку Дзіну і другім паліцыянтам, якія вялі допыт яго пасля арышту. Ён, Рубі, абураўся не толькі на ролю, адыграную нібы Освальдам пры забойстве Кенедзі, але і забойствам паліцыянта Тыпіта (якога, як кажа сястра Рубі, ён любіў, «як брата»).

Тлумачачы прычыны, па якіх ён забіў Освальда, Рубі між іншым заявіў паліцыі: «Усё ж хтосьці павінен быў гэта зрабіць. Вы не маглі гэтага зрабіць. Вы ж не думалі, што я дазволю яму выбрацца адсюль, ці ж не так?...»

Камісія Уорэна, створаная для высвятлення забойства прэзідэнта, праслухала паказанні жыхара Даласа Джэймса Рычарда Уорэла, які бачыў смерць прэзідэнта. Уорэл катэгарычна заявіў, што ён чуў чатыры выстралы, а не тры, як цвярдзіла ФБР. Гэта пацвярджае меркаванне Б'юкенена, што першы выстрал адбыўся з чыгуначнага моста.

(а-ся)

### По модзе XVIII стагоддзя

У Англію прыехала некалькі жыхароў з вострава Трыстан да Кунья, які нядаўна быў знішчан вулканічным вывяржэннем. Востраў знаходзіўся ў Атлантычным акіяне, на паўдарозе паміж мысамі Добрай Надзеі і Паўднёвай Амерыкай. Там жыло некалькі соцен чалавек. Усе яны насілі вопратку па модзе XVIII стагоддзя, ніхто з іх ніколі ў жыцці не бачыў ні самалёта, ні аўтамашыны ні радыёпрыёмніка.

**МУЗЫЧНАЯ ГЕАГРАФІЯ**

Паўвостраў Бетховена, гара Ліста і Грыга, астравы Глінкі, ледавікі Моцарта і Гендэля, бухты Мендэльсона, Вердзі і Шуберта, шэльфавы ледавік Баха... Дзе ўсё гэта? У якой-небудзь казачнай краіне?

Не, гэтыя назвы сустрэнеш на карце раёна Антарктыды, званага каля паўтара стагоддзя назад Зямлёй Аляксандра I. У 1947 годзе тут працавала амерыканская палярная экспедыцыя. Даследчыкі, відаць, сумавалі ў ледзяной пустыні па музыцы вялікіх кампазітараў. Тады і паявіліся ў нядаўніх «белых плямах» музычныя імёны.

## ШТО ДЗЕ ЯК

# МАСКОЎСКІЯ ВОКНЫ



З выпадку выхаду ў Польшчы 300 нумара тыднёвіка «Край Рад» у Доме савецкай культуры ў Варшаве адкрыта выстаўка фотарэпарцёраў агенцыі «Навіны».

**На здымку фотаэцюд «Маскоўскія вокны».**

# ПРАЦЭС ЗАБОЙЦАЎ

**Здымак з франкфурцкага працэса ваенных забойцаў з Асвенціма. Гэта найбольшы пасля вайны ў ФРГ працэс ваенных злачынцаў.**





# „САТУРН"

*Васіль Ардаматкі*

**Былы ад'ютант Мюлера Біркнер жыў у Маскве ўжо трынаццаць год. Ніхто, хто ведаў Яна Плуціса, не падазраваў, што гэты заўсёды спакойны, умелы і прыстойны інжынер з'яўляецца вельмі небяспечным іншаземным разведчыкам. Адзіная яго асаблівасць — парыску ён гаварыў з лёгкім акцэнтам — тлумачылася вельмі проста: усе латышы так гавораць. Знаёмасць рускай мовы прадрашыла тое, што ён быў выбраны для ролі агента, якога гестапа, бы козырную карту, пра запас закідвала ў Маскву. Трынаццаць год карта была па-за гульнёй. Трынаццаць год запар інжынер Плуціс дваццаць чацвёртага чэрвеня з'яўляўся на ўмоўленае месца — да ўваходу ў камеру хавання ручнога багажу Казанскага вакзала — і на працягу гадзіны чакаў пасланца ад Мюлера. Але той не прыходзіў, і Ян Плуціс вяртаўся ў тое сваё новае жыццё, каб цярпліва чакаць наступнага дваццаць чацвёртага чэрвеня...**

**...Спусціўшыся ў бюро абслугоўвання атэля, выздаравеўшы Гернгрос, заявіў, што спыняе сваю турысцкую паездку і на поўдзень не паедзе. Заўтра ён апошні дзень правядзе ў Маскве, а на паслязаўтра яму патрэбны білет да Стакгольма на самалёт шведскай авіякампаніі «САС».**

**Затым Гернгрос пайшоў гуляць. Гэта была тыповая прагулка турыста па Маскве. У руках у яго была карта горада, у якую ён часта заглядаў. Ішоў ён памалу, спыняўся ля вітрын магазінаў, стаяў перад помнікамі,**



**адпачываў на лаўках у цяню бульвараў. Але ўвесь гэты час ён заняты быў толькі адным: яму трэба было высветліць, ці за ім сочаць. І чым далей ён хадзіў па горадзе, тым рабіўся спакайнейшым. Ён жа ведаў, як прымусіць назіральнікаў выявіць сябе... Не, ніхто не сочыць, усё ў парадку.**

**Але сачэнне было арганізавана так, што нават майстры Гернгрос не мог яго выявіць. За ўсю яго прагулку не было такой секунды, каб ён апынуўся па-за назіраннем. І да таго моманту, калі ён прыйшоў у атэль паабедаць, у генерала Маркава на стале ўжо ляжаў маршрут «прагулкі» турыста. Неўзабаве над гэтай картай схіліліся Маркаў і яго супрацоўнікі.**

**— Значыць, прагулка была без кантактаў, — сказаў Маркаў. — Значыць, мэта яе была праверыць, ці няма за плячыма нас. Трэба прызнаць, ён не трус. Я думаў, што ён закажа білет на самалёт адразу пасля эпізода ў Трэцякоўцы. І, значыць, у яго ў Маскве вельмі важная справа, і, напэўна, дэталі сустрэчы так прадуманы, што небяспекі для сябе ён не бачыць. Але на «справу» ў яго застаецца толькі сённяшняя ноч, заўтрашні дзень і апошняя ноч. Патроіць увагу, таварышы!..**

**Гернгрос цудоўна выспаўся і раніцай разам з Раяй пайшоў па магазінах рабіць пакупкі. Усе пакупкі ён складаў у невялікі чамадан, які ўзяў з сабою з атэля.**

**На абед яны вярнуліся ў атэль, і ён адпусціў Раю да шостай гадзіны, папярэдзіўшы, што яна яму спатрэбіцца. Роўна а шостай ён выклікаў яе ў свой нумар.**

**— Вы ведаеце, Раечка, я лячу ў Стакгольм, там у мяне спраў на тыдзень. І я не хачу цягаць з сабой чамадан з пакупкамі. У «Метраполі» жыве мой суайчыннік і калега па бізнесу, я папрасіў яго адвезці чамадан у Германію. Закажыце, калі ласка, машыну і адвязіце чамадан у «Метраполь».**

**— Дзе там шукаць вашага знаёмага?**

**— Я яму пазваню, і ён выйдзе за чамаданам.**

**Рая ўзяла чамадан і, спусціўшыся ўніз, заказала машыну. Гернгрос глядзеў праз акно, як Рая сядала ў машыну, памахаў ёй рукой, а потым адзеў пыльнік і выйшаў з гасцініцы.**



**Рая ўсё зрабіла так, як ён прасіў, і цяпер пазіравала на пад'езд гасцініцы «Метраполь». Прайшло мінут дзесяць, і раптам каля машыны з'явіўся сам Гернгрос.**

**— Пралік у арганізацыі, — смяяўся ён. — Вы выехалі, я яму званю, а ён, аказваецца, пайшоў гуляць. Давялося бегчы вам на выручку. Давайце чамадан. Я яго тут пачакаю. А вы вяртайцеся да сябе і чакайце мяне.**

**Амаль гадзіну Гернгрос прастаяў з чамаданам каля «Метраполя», а затым памалу пайшоў да станцыі метро. Пад зямлёй, перасаджваючыся з поезду на поезд, ён катаўся не менш гадзіны — гэта была нялёгкая гадзіна для супрацоўнікаў Маркава. Затое Гернгрос падняўся з метро на вакзальную плошчу цалкам спакойны: сачэння не было...**

**Ён прайшоў у рэстаран Казанскага вакзала і выпіў там чаю. У восем трыццаць ён выйшаў з рэстарану і, пакруціўшыся па залах чакання, накіраваўся да камеры хавання ручнога багажу. Каля ўваходу ў камеру ён паставіў чамадан на зямлю і закурыў. Было без пяці мінут дзесяць. Мінут праз дзесяць каля яго спыніўся Плуціс. Паставіўшы свой чамадан побач гернгросавага, ён зрабіў выгляд, быццам шукае чагосьці па кішэнях. У гэты час Гернгрос, нахіліўшыся, узяў чамадан Плуціса і пайшоў прэч ад камеры хавання. А Плуціс, узяўшы чамадан Гернгроса, накіраваўся ў іншы бок. Яны адыйшлі не больш дзесяці крокаў ад месца сустрэчы і былі затрыманы супрацоўнікамі дзяржбяспекі...**

**...Допыт Гернгроса цягнуўся другую гадзіну... Гернгрос усё адмаўляў, трымаўся абсалютна спакойна.**

**У кабінет, быццам прыпадкова, зайшоў Рудзін. Ён паглядзеў на Гернгроса і пляснуў рукамі.**

**— Вось дык сустрэча! Падпалкоўнік Мюлер!**

**— Маё прозвішча Гернгрос, вы памыляецеся — быстра рэагаваў Гернгрос.**





 




## ХВОСЦІК

На вайне Язэп не быў,
Язэп біўся з жонкай;
У хаце апарат курыў,
Плыла самагонка.

Не выходзіў на загон,
Сох ля апарата,
Бо ў цане быў самагон,
Пажываў багата.

З «Унры» 5 кабыл дастаў,
І ўсе былі хворыя,
Таму кожну прадаваў...
Так расла гісторыя.

Пабудаваў новы дом,
Абсадзіўся садам.
Гаварылі ўсе кругом:
— Вось гэта пасада!

Кланяліся яму ўсе
Ў павеце сяляне.
Рос, як свінка на аўсе,
На грамадскім плане.

Было добра. Да пары
Меў Язэп выгоду.
Аж урэшце трактары
Увайшлі у моду.

Раз'ехаўся конскі рынак,
Сляды капыт вецер змёў.
Зрабіў Язэп перапынак
І ўзяўся да кароў.

У руках вяроўка нова,
І работа новая.
Кожная яго кароўка
На рынку — расовая.

Лгаў Язэп людзям, да часу
Дрэнны прадаваў тавар.
Усе пазналі яго ра'у,
Але не збяднеў гандляр.

Знайшоў сябрука у скупе
І ў кожны тарговы дзень
Заліваў яго няскупа,
А сам грошы гроб у кішэнь.

Удаваліся. Без пасу,
Пад звонам літроўкі,
Йшлі шарэгам ў І класу
Старыя кароўкі.

Аж прыеўся гэты хлеб,
Рызыка праклята.
Пачаў купаваць Язэп
Па вёсках цяляты.

Не раз ездзіў у Беласток
І збываў там удала.
Пух ў кішэні кашалёк,
І ўсё было мала.

Выбаровы вёз тавар,
Спынілі ў Дайлідах.
Пабялеў ў Язэпа твар.
(Бо ці ж не абіда?)

— Чорт міліцыю наслаў! —
Скрыгнуў Язэп у злосці, —
Пражыў столькі і папаў
За цялячы хвосцік!

ВАЦІК АСІПОВІЧ

### КАЗАЧКА

Раніцай певень абавязкова прачынаецца рана і, раздзіраючы горла, крычыць:

— Сонца! Узыходзь, пара!

І сонца абавязкова ўзыходзіць. Р.Б.

### У ВАРАЖБІТКІ

— Ваш будучы муж будзе маленькага росту, бландзін, з блакітнымі вачыма і багаты.

— Вельмі добра. Але скажыце, што мне рабіць з маім цяперашнім мужам?

### РАСЧАРАВАЎСЯ



Пайшлі два кумы на паляванне.

Падыходзяць да сажалкі. Убачыў адзін кум, што ў чароце плавае качка, ды і кажа другому:

— Глянь, кумок, якая качка! Тлустая, аж блішчыць... Ох і боршч будзе, пальчыкі абліжаш. Ты толькі не перашкаджай, я зараз яе застрэлю.

Прыцэліўся. Бах! А качка ўзнялася і паляцела. Падзівіўся ён ёй услед, ды й кажа:

— А ці ж то качка?! Хай ляціць, там наедку з яе — адны пер'і.

## УСЯЧЫНА

### Партрэт з баранчыкам



Задума не новая. Гісторыя мастацтва (не гаворачы ўжо аб фатаграфіі) адзначыла звыш тузіна дам з розных эпох і стыляў, якія пазіравалі да партрэта з баранчыкам, але Анэ Гайвад, папулярная амерыканская актрыса, робіць гэта так грацыёзна, што аператар выкарыстаў аказію і пстрыкнуў яшчэ адзін рэкламны здымак.

Варты жалю той, хто не бачыць зорак, пакуль не дадуць у зубы.

### Загадкавая карціна



Па які бок турэмнай краты знаходзяцца гэтыя ваенныя злачынцы? (Пры рашанні задання ўлічыць, што дзеянне адбываецца ў нашы дні ў ФРГ).




## ВЕЛАСІПЕДНЫЯ СПРАВЫ

— Узялі на мушку веласіпедыстаў сёлета, — паскардзіўся Кастусь, напаўняючы шклянку півам. — Без веласіпеднай картачкі не выедзеш на дарогу.

— На веласіпедзе паедзеш без паперкі, а на паперцы без веласіпеда не рушыш, — сказаў сусед.

— Разумнік знайшоўся штрафы плаціць, — адазваўся Кастусь.

— Выклапатаць паперку — глупства, — сказаў сусед, выціраючы далоняй вусы, замочаныя півам.

— Гутарка на карысць бедных, — сказаў Кастусь. — Прачытаў я кніжачку «Правілы руху на веласіпедзе», пазнаёміўся з дарожнымі знакамі, а аказалася гэтага мала. Экзаменацыйная камісія параіла вывучыць дарожны кодэкс або закончыць веласіпедныя курсы. Здзіўляюся толькі, чаму не патрабуюць дыплома юрыдычнага факультэта.

— Мінулі часы, калі бывала прычэпіш нумар да веласіпеда і каці, хоць на Лысую гару, — прыпомніў сусед.

— Эге, сёння сам палысееш, пакуль атрымаеш дазвол асядлаць веласіпед, — меланхалічна адазваўся Кастусь.

— За дзве бутэлькі піва адступлю табе карысныя парады, — запрапанаваў сусед.

Кастусь сарваўся з месца, прывалок піва і папрасіў: — выкладвай, што ведаеш, магчыма прыдасца на экзамене.

— Запісвай для памяці, — папрасіў сусед і пачаў дыктаваць:

— Веласіпед — не аўтамабіль, не наязджай на пешахода, а праязджаючы міма злаўчыся брыкнуць нагой у калена прахожага... Калі ты п'яны, не сядай на сядло, лепш ляж спаць, накрываючыся веласіпедам... Не пакідай на вуліцы веласіпеда, гэтым пазбегнеш вяртання пяшком... Калі заснеш, едучы на веласіпедзе, могуць украсці задняе кола. Трымайся моцна за руль, інакш — будзеш трымацца за галаву... У выпадку нападзення сабак, гані веласіпед па крузе, пакуль у сабак не закруціцца галава... Не намагайся як найхутчэй круціць нагамі, лепш круці галавой...

Кастусь адарваў каранлаш ад паперы і сказаў:

— Ды ты, бачу, па-дурному выкруціў ад мяне два піва, гэтыя парады зусім не карысныя.

— Як жа не карысныя, калі я атрымаў за іх піва, — засупярэчыў сусед і дадаў: — У жыцці заўсёды так бывае. Што карысна аднаму, тое некарысна другому.

Дзядзька Лявон

### АКЕНЦА ДУМАК

**Не хочучы сабе задаваць нязносны труд разгадваць людзей, мы іх звычайна прыймаем за тых, за якіх яны сябе самі выдаюць.**

Джон Лябок (1834 — 1913) — англійскі даследчык прыроды і мараліст.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Марысі Крук** з Малых Тафілаўцаў, Гаўнаўскага павета, змяшчаем папулярную савецкую песню з кінафільма «Верныя сябры»

## ЛОДОЧКА

Березы подмосковные
Шумели вдалеке.
Плыла-качалась лодочка
По Яузе-реке.

Мы плыли по течению
Сторонкою родной,
И вместе тесно не было
Нам в лодочке одной.

От весел вдоль по Яузе
Струился светлый след.
С тех пор друзья-товарищи,
Прошло немало лет.

Давно уж мы разъехались
Во все концы страны,
Но дружбе мы по-старому.
По-прежнему верны.

Над нами небо Родины,
И так светло кругом,
Как будто мы на лодочке,
Как в юности, плывем.

И путь наш не кончается,
Простор речной широк:
И гонит, гонит лодочку
Попутный ветерок.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1, Telefony red. naczelny 25-89 centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półroczne — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wilcza 46, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458. Bitk L-3